# РУНЬ

газэта беларусаў Літвы

28 чэрвеня 1999 №24 кошт 1 літ





Здымак Генадзя Жынкова

# СЛАВЯНСКІ АНТЫСЛАВЯНІЗМ

*Пачатак у N23*

Новае пануючае камуна-чынавецтва, якое зьнішчыла ўласьніка фізычна, было абавязанае, было вымушанае, каб зберагчы сваё панаваньне, зьнішчыць нацыю. Нацыя — гэта самая вялікая каштоўнасьць, якую стварыла тэхналягічная цывілізацыя за тысячагодзьдзі свайго йснаваньня, гэта магутны ўласьнік, каторы валодае незьлічонымі багацьцямі: генафондам, ведамі, уменьнямі, шматвекавым досьведам пражываньня ў пэўных геаграфічных умовах на канкрэтнай тэрыторыі, пэўным менталітэтам, духоўным патэнцыялам, гэта носьбіт часткі агульначалавечых каштоўнасьцяў у выглядзе сваёй культуры. Нацыя не дазваляе бескантрольна панаваць камуначыноўнікам, некампэтэнтна кіраваць капіталам. І трэба аддаць належнае камуначыноўнікам — яны дакладна вызначылі сацыяльнае зьвяно, якое насамперш трэба было разбурыць, каб зьнішчыць нацыю. Яны пачалі з разбурэньня базавай ячэйкі нацыі — сям'і! Бо менавіта яна (сям'я) зьяўляецца носьбітам генафонду нацыі, ейнага фізычнага ўзнаўленьня, асноўным выхавальнікам падрастаючага пакаленьня шляхам перадачы яму сямейных традыцыяў, вопыту, звычаяў, духоўнасьці.

*Працяг на старонцы 3*



*Аляксандра і Аляксандар Уласавы. 1927 г.*

Успаміны Веры Ніжанкоўскай пра Аляксандра Ўласава на старонцы 4.

# Асада Памбы

Падчас выбараў я быў далёка ад Бацькаўшчыны. Пабываў у Менску толькі дзесяць дзён пасьля. Даведаўся, што сп. Міхаіл Чыгір дагэтуль за кратамі, а сп. Зянон Пазьняк за тры дні да пачатку выбараў зьняў сваю кандыдатуру. Натуральна, завітаў ва Ўправу БНФ, каб даведацца пра ход і вынікі прэзыдэнцкіх выбараў. Калі коратка, дык з пункту гледжаньня спатканых мною ачольнікаў БНФ адбылося наступнае:

1. З дапамогаю сваіх стаўленьнікаў М. Чыгіра й В. Ганчара праз прэзыдэнцкую кампанію Масква хацела стварыць сваю кішэнную «прамаскоўскую» апазыцыю й палітычна зьнішчыць БНФ.

2. Ведаючы гэтае, БНФ змушаны быў усё ж такі ўступіць у перадвыбарчую барацьбу й змагацца з падступным плянам Масквы.

3. Каб скампрамантаваць БНФ сп. В. Ганчар наўмысна праводзіў выбары з самымі грубымі парушэньнямі, напрыклад, непамерна завышаў колькасьць прагаласаваўшых. «На фоне дэманстратыўнай фальсыфікацыі галасаваньня адбываецца «спаленьне» Фронту і яго людзей... На нашых вачах пад звон цынічнага ашуканства Фронт зацягваецца ў багну, у хлусьню, у бруд, зь якога няма ратунку...» (Зянон Пазьняк. Вялікая афёра/ліст да сяброў БНФ. 15 траўня 1999году).

4. Натуральна, што ў такой сытуацыі сп. З. Пазьняк зьняў сваю кандыдатуру й прызваў народафронтаўцаў «тэрмінова выходзіць з выбарчай прафанацыі» (там жа), што й было зробленае.

5. У выніку «Беларускі Народны Фронт выстаяў, захаваў сваю палітыку і зьберогся ад кампрамэтацыі і разбурэньня, хоць 4 месяцы былі фактычна страчаныя на вельмі цяжкую працу й змаганьне» (там жа).

Падчас гутаркі ва Ўправе БНФ мне чамусьці (можа, недарэчы) узгадаўся верш-баляда Казьмы Пруткова «Осада Памбы»:

*Девять лет дон Педро Гомец,*
*По прозванью Лев Кастильи,*
*Осаждает замок Памбу,*
*Молоком одним питаясь.*
*И всё войско дона Педро,*
*Девять тысяч кастильянцев,*
*Все, по данному обету,*
*Не касаются мясного...*

Калі «злыя маўры» перамаглі зьнясіленых касьцільянцаў, ад каторых засталося толькі «дзевятнаццаць чалавек», дон Пэдра сабраў іх і сказаў:

*Разовьём свои знамёна,*
*В трубы громкие взыграем*
*И, ударивши в литавры,*
*Прочь от Памбы мы отступим*
*Без стыда и без боязни.*
*Хоть мы крепости не взяли,*
*Но поклясться можем смело*
*Перед совестью и честью:*
*Не нарушили ни разу,*
*Нами данного обета, –*
*Целых девять лет не ели,*
*Ничего не ели ровно,*
*Кроме только молока!*

Больш ураўнаважанае меркаваньне адносна прэзыдэнцкай кампаніі выказаў адзін вядомы палітык, які пажадаў застацца інкогніта. На ягоную думку, на другім этапе перадвыбарчай кампаніі ў сп. Ганчара скончыліся сродкі. Грошай не хапіла ня толькі што на стварэньне ўчастковых камісіяў, а нават і на надрукаваньне неабходнай колькасьці бюлетэняў. (Былі заблякаваныя рахункі, дзе зьбіраліся сродкі на выбарчую кампанію, не аказалася абяцанай сумы ў акружэньні Чыгіра й. г. д.). У сытуацыі, калі ўлады рабілі ўсё, каб сарваць выбары, калі не было сродкаў на іхняе правядзеньне, калі не прыехалі міжнародныя назіральнікі, – разумна было перанесьці выбары на больш позьні тэрмін. І гэта ёсьць галоўная памылка В. Ганчара. Але чыста па-чалавечы можна зразумець ягоную захопленасьць «перадвыбарчым змаганьнем», ягонае жаданьне давесьці даверaную яму справу да лягічнага завяршэньня. Мой суразмоўнік, каторы, дарэчы, меў непасрэднае дачыненьне да выбараў, гэтак дадсумаваў тое становае, што паказалі выбары:

– энтузіязм насельніцтва падчас выбараў быў значна большы, чым чакалася;

– шмат хто зь беларускага насельніцтва даведаўся, што хутка А. Лукашэнка ператворыцца з законнага прэзыдэнта ва «ўзурпатара»;

– віна за зрыў выбараў на 99% ляжыць на Лукашэнкаўскім акружэньні.

А што тычыцца пазыцыі БНФ на выбарах, дык мой суразмоўца сказаў прыкладна тое, што сказаў дону Пэдра ягоны каплан Дыега:

*Если б я был полководцем,*
*Я б обет дал есть лишь мясо,*
*Запивая сантуринским...*

Якраз у часе майго побыту ў Менску, на праваслаўную Сёмуху, здарылася трагедыя. На праспэкце Машэрава, каля палацу спорту, гарадзкія ўлады ладзілі чарговае сьвята, зь півам (якое прэзэнтавала нейкая вядомая фірма) ды вясёлымі атракцыёнамі. У самы разгар сьвята (20.00 па менскім часе) нечакана ўсчалася навальніца. Прычым хмара навальнічная была невялікая й ейны эпіцэнтар быў акурат над палацам спорту. Зіхалі маланкі, бесьперапынку гахалі перуны. Амонаўцы й міліцыя, што павінныя былі сачыць за парадкам, пахаваліся ад дажджу ў аўтобусы. У блізкае мэтро «Няміга» з гіканьнем і сьмехам хлынулі сьвяткуючыя. Ім насустрач рухаўся паток тых, хто хацеў пабываць на сьвяце й нават яшчэ ня ведаў пра навальніцу. І здарылася непапраўнае, у штурханіне загінула звыш 50 мінчукоў... Назаўтра я бачыў на стале сутарэньняў мэтро (прыкладна 3 мэтры ад падлогі) сьляды ад пальцаў рук тых, хто хацеў выкарабкацца з нагрувашчаньня целаў – можаце сабе ўявіць... Загінулі пераважна самыя «крохкія»: дзяўчаты ад 12 да 17 гадоў.

Што яшчэ новага пачуў у Менску? Беларускі Народны Фронт рыхтуецца да чаргавага зьезду, каторы мусіць адбыцца ў ліпені (чакаецца на зьмены ў кіраўніцтве й палітыцы Фронту), а наш прэзыдэнт тымчасам не губляе часу й рыхтуецца да асады Менску натаўскім войскам і да налётаў варожай авіяцыі: праводзіць вучэньні, аднаўляе бамбасховішчы ды грозіць супаратам, маўляў, мы ня сэрбы, нас голымі рукамі ня возьмеш... Асада Памбы.

**А. М.**

# Вандроўка ў Вашунава

Напрыканцы траўня, акурат на Тройцу, ТБМ Віленскага краю была арганізаваная вандроўка ў Беларусь. Дэвіз вандроўкі «Каб помнілі й шанавалі Бога, сям'ю, Бацькаўшчыну». Галоўным арганізатарам вандроўкі было спадарства Гілёў, каторыя запрасілі гасьцей на сядзібу сваіх бацькоў у засьценак Вашунава Докшыцкага раёну, дзе іхнімі сіламі створаны гісторыка-этнаграфічны музэй «Засьцянковая хатка».

Травень у Беларусі бадай што самы чароўны месяц: зялёныя гаі, у белай кіпені сады, жоўтыя ад багаткаў (дзьмухаўцоў) лугі, на палетках шчыруюць сяляне, яркімі прастакутнікамі зеляне руњ, а яравыя толькі пачынаюць вылазіць з глебы, – вельмі сухой і халоднай была сёлета вясна. Нягледзячы на травеньскае хараство, у беларускіх вёсках адчуваецца сёньня нейкая паныласьць і галеча. На падворках соўгаюцца старыя ў зашмальцаваных ватоўках, то ў валёнках, а то й басанож. Даўно нерамантаваныя платы пахіліліся...

Першы невялічкі прыпынак зрабілі на беразе Нарачы, вада якой б'ецца аб камяні, што ўмацоўваюць асфальтаваную дарогу, каторая стужкай віецца ўсьцяж берага. Усіх уразіла незвычайная празрыстасьць вады: на дне пяшчанага плёсу, які цягнецца на 100-200 мэтраў ад берага, бачны кожны каменьчык, кожная дробная рыбка. Непадалёк ад нас плавалі ганарлівыя лебедзі й качкі з качанятамі. А далей – выспа зь векавымі дрэвамі. Глядзіш на гэтую прыгажосьць і забываеш усе людзкія клопаты...

Неўзабаве праяжджалі Мядзель, маляўнічае, атуленае з усіх бакоў азёрамі мястэчка. У старых Ваўкалатах палюбаваліся на старадаўні касьцёл, у пабудове каторага таленавітыя дойліды выкарысталі майсцовыя валуны, якімі й сёньня густа засеяныя тутэйшыя палі.

Пачалося ж нашае сьвята ў Парафіянава – сьвятой імшой у тамтэйшым касьцёле. Потым аўтобус перавёз нас у Вашунава. Засьценак Вашунава туліцца з аднаго боку да чыгункі Парафіянава – Круляўшчызна, а з другога – да лесу. Мясьціна тут сапраўды маляўнічая, але амаль бязьлюдная. У самым Вашунаве ўсяго чатыры хаты, у дзьвюх зь якіх дажываюць свой век старыя сяляне. Бязлюднасьць адчуваецца ва ўсім: у акінутых садах, дзе ў высокім чарнобыльніку квітнеюць яблыні, у пахілай лазьні, у растучых паабапал дарогі маладых клёнах і ліпах.


Нарач. Здымак Павала Саўчанкі



Гісторыка-этнаграфічны музэй «Засьцянковая хатка» ў Вашунаве. Здымак Павала Саўчанкі

У Вашунава нас чакалі ўжо нашыя гледачы й слухачы, сяляне з навакольных вёсачак і хутароў. Вакальна-этнаграфічны ансамбаль «Вярдане» зь Літвы, каторы прыехаў з намі, парадаваў прысутных ня толькі літоўскімі, але й беларускімі народнымі песьнямі, што сьпяваюцца ў Віленскім краю. Пасьля канцэрту й мясцовыя жыхары, асьмялеўшы, пачалі сьпяваць свае песьні, скакаць пад гукі скрыпкі, дудак і гармонікa. Позна вечарам да нашых сьпеваў далучыліся салаўі, зязюлі й жабы. І цяжка было аддаць перавагу колечы-якому баку.

Назаўтра задаволеныя і ўдзячныя тутэйшыя сяляне доўга не хацелі нас адпускаць дамоў. Удзячныя яны былі ня толькі за канцэрт ды прыемныя размовы, але й за гуманітарную дапамогу старым і дзецям з навакольных вёсак, каторую мы прывезьлі з сабой.

Штогадовыя спатканьні сяброў ТБМ Віленскага краю з жыхарамі Парафіянаўшчыны сталіся ўжо, дзякуючы намаганьням спадарства Гілёў, добрай традыцыяй. Да спатканьня ў будучым гаду!

**Павал Саўчанка**

*Віншуем сяброў Таварыства Беларускай Культуры ў Літве, ейнага нязьменнага старшыню сп. Хведара Нюньку зь дзесяцігадовым юбілеем гэтай нашай старэйшай у Вільні беларускай арганізацыі. Жадаем вам, спадарове, плёну ў дзейнасьці, скіраванай на падтрымку ў беларускай дыяспары ў Літве ідэалаў вольнай і незалежнай Беларусі. Так трымаць!*

*Рэдакцыя «Руні»*

**Пабачыла сьвет**

кніга ўспамінаў, апавяданьняў, вершаў беларускага пісьменьніка з Аўстраліі **Сымона Шаўцова «Мая адысея»**. Кніга гэтая наскрозь аўтабіяграфічная, пранізаная тугою па страчанай Радзіме. Кнігу сьветлай памяці Сымона Шаўцова можна замовіць, пераслаўшы на рэдакцыю імянным чэкам $ 5 Павалу Саўчанку (Pavel Savcenko). Гэтаксама можна замовіць кнігу ўспамінаў аўстралійскага беларуса, нашага вядомага грамадзка-палітычнага дзеяча **Алеся Алехніка «Пад бел-чырвона-белым»**, пераслаўшы $ 10. Нагадаем таксама, што ў выдавецтве «Рунь» вядзецца інтэнсыўная праца ў падрыхтоўкі кнігі ўспамінаў пра Віленскую Беларускую Гімназію, дык чакайма вашае дапамогі матар'яламі, фатаздымкамі, добрымі парадамі.

**А. М.**













Славамір Адамовіч

## Плавільшчыкі расы

**Паэзія. Выбраныя вершы**

Выдавацтва «Наша Ніва» (Бібліятэка «Вострая Брама») 1999

**190 старонак**

У кнігу выбранае паэзіі ўвайшлі лепшыя вершы з ранейшых зборнікаў «Кальварыйскія клёны» (1990), «Зямля Ханаан» (1993), «Зваротныя правакацыі» (1994), «Каханьне пад акупацыяй» (1996), «Сьпіраль Бруна» (1998), а таксама творы, напісаныя пасьля 10-месяцовага зьняволеньня ў турме. У дадатку — літаратурная аўтабіяграфія С.Адамовіча і крытычны аналіз ягонае творчасьці.



# СЛАВЯНСКІ АНТЫСЛАВЯНІЗМ

Праця̌г са старонкі 1

Мэтады, набор сродкаў дзеля зьнішчэньня сям'і не вылучаліся навізною, але вызначаліся асаблівай вытанчанасьцю й жорсткасьцю. Па-ранейшаму прымянялася асыміляцыя ды экспансія, аднак яны шматразова ўзмацняліся мэтанакіраванай міграцыяй шматмільённых масаў насельніцтва пад выглядам набору рабсілы, размяркаваньнем спэцыялістаў, утварэньнем жыльлёвых праблемаў, рэпрэсіямі. Працэсы гэтыя суправаджаліся бесперапынным узмацненьнем камуністычнай ідэалёгіі (ідэалёгіі пануючай клясы), у аснове каторай палягала тэорыя клясавай барацьбы ды прынцып пралетарскага інтэрнацыяналізму. Пад балбатню аб пралетарскім інтэрнацыяналізме йшла бязьлітасная русыфікацыя шматлікіх народаў СССР. Ізуіцкая ж вытанчанасьць камуністых палягала на тым, што на этнічна нярускіх тэрыторыях праводзілася палітыка лютага рускага шавінізму. Гэтаму спрыяла зьяўленьне на нярускіх тэрыторыях усё большай колькасьці людзей некарэннай нацыянальнасьці (якія ўспрымаліся карэннымі жыхарамі, як рускія), бесперастанныя адміністрацыйныя падзелы этнічных тэрыторыяў (Беларусь, напрыклад, кроілі ажно 7 разоў!). Адначасна й на этнічна рускіх землях зьяўлялася ўсё больш людзей ня рускай нацыянальнасьці, і тут мэтанакіравана праводзілася палітыка ўдушэньня інтарэсаў тытульнай нацыі рукамі рускамоўных інтэрнацыяналістаў. Рускі нацыяналізм быў звышнебясьпечны для пануючай клясы й ён бязьлітасна выкараняўся. «Галоўны вораг цяпер — рускі нацыяналізм. Дэсыдэнтамі мы зоймемся потым: мы іх вылавім за адну ноч!» — заявіў спадар Федарчук, каторы ачоліў напачатку 80-х КДБ («Наш современник» 2/1992)... Тытульная нацыя Расейскай імпэрыі зь ейнымі шавіністычнымі памкненьнямі безупынна, у нарастаючым тэмпе фармуе людзей, за якімі ўмацоўваецца тэрмін «рускамоўныя». Гэтыя людзі маюць дзьве прыкметы: яны прызнаюць толькі рускую мову й згубілі сваю нацыянальную пігментацыю, пачуцьцё нацыянальнай годнасьці. «Рускамоўныя» — расаднік рускамоўнага шавінізму, пры якім рускім адводзіцца адно толькі роля гарматнага мяса, бо руская нацыя для рускамоўнага шавінізму шмат больш небясьпечная, чым іншыя. Нездарма ўсё гучней і гучней у Расеі гучыць лёзунг «Руская культура бяз рускіх!» («Наш современник» 4/1990).

Палітыка камуна-чынавецтва дала свой плён. Сем'і, людзі, каторых вывезьлі са сваіх этнічных тэрыторыяў, паступова пазбаўляліся этнічных каранёў, духоўнага камфорту, адчувалі сябе бездапаможнымі, непрыстасаванымі да паўнавартаснага жыцьця ў новых абставінах, вольна ці нявольна ўтваралі духоўны дыскамфорт карэнным нацыям, і, як вынік, напружаньне ва ўзаемадачыненьнях людзей у побыце бесперапынна нарастала.

Камуністыя дамагліся вялікіх посьпехаў і ў разбурэньні сям'і. Ёй пакінулі адну толькі функцыю ўзнаўленьня сабе падобных. Усё астатняе забрала на сябе дзяржава: яьслі, дзіцячыя садкі, дзіцячыя дамы, акцябраты, піянеры, камсамол, партыя, — і ўсё гэтае ў абалонцы пралетарскага інтэрнацыяналізму й рускамоўнага шавінізму, дзе галоўным героем стаўся Паўлік Марозаў, сымбаль маразму й чалавеканенавісьніцтва.

Дэнацыяналізацыя ў СССР дасягнула гэткага ўзроўню, што нават усур'ёз пачала падводзіцца тэарэтычная глеба аб «адзіным савецкім народзе», як аб нейкай новай папуляцыі. Камуністыя, здавалася, здолелі зрабіць тое, чаго не змагла зрабіць ніводная зь існаваўшых імпэрыяў. Аднак законы прыроды няўмольныя. Патэнцыяльныя магчымасьці стварэньня грамадзтва (ПМГ) можна адлюстраваць формуляй:

**ПМГ = Н/І < > 1,**

дзе **Н** — нацыяналісты (нацыяналістам ёсьць чалавек, каторы ідэнтыфікуе сябе з пэўнай нацыяй, зьяўляецца носьбітам ейнага генафонду, духоўнасьці, культуры); **І** — інтэрнацыяналісты (камуністы, шавіністы, касмапаліты, дэнацыяналізаваны элемэнт, — усе разбуральнікі нацыі).

Калі **ПМГ > 1** — грамадзтва здольнае да самаразьвіцьця й тым хутчэйшага, чым больш лік.

Калі **ПМГ < 1** — грамадзтва дэградуе й тым хутчэй, чым лік меншы.

«Адзіны савецкі народ» аказаўся нcauseздольны да стварэньня й разьвіцьця. Чым больш інтэнсыўна йшла дэнацыяналізацыя народаў СССР, тым хутчэй ішло разлажэньне грамадзтва, тым больш яно рабілася скіраваным на паразытуючае йснаваньне й бяздумнае спажываньне. І калі руская нацыя (гэты абруч, які мацаваў «адзіны савецкі народ») дасягнула ўзроўню ПМГ < 1, «адзіны савецкі народ» пачаў разьбягацца і, ня згадваючы добрым словам рускіх, пачаў адбудоўваць свае нацыянальныя дзяржавы. І тады з усіх куткоў былой камуністычнае імпэрыі пачуўся дружны лямант рускамоўных шавіністаў, маўляў, ратуйце, мы нікому непатрэбныя, нас прыгнятаюць, нашыя правы ўціскаюць, мы патрабуем адзінай радзімы, нас ня хочаць абараніць Расея, яна нам здрадзіла, ад нас патрабуюць вывучаць непатрэбныя нам мовы, праклятыя нацыяналісты ня хочаць рабіць вялікую рускую мову дзяржаўнай.

Памятаеце ў Янкі Купалы: «Чаго вы хочаце, панове, які вас выклікаў прымус, забіць трывогу аб тэй мове, якой азваўся беларус?» Так, панове, вам трэба супакоіцца. Ніхто вам ня здрадзіў. Проста руская нацыя дайшла ўжо да такой ступені дэградацыі, як, напрыклад, і ейная ахвяра — беларуская нацыя, которая даўно ўжо перайшла на рэжым біялягічнага выжываньня. І таму несправядліва лаяць Расею, сварыцца на Гарбачова, Ельцына й да іх падобных. Рускамоўная эліта Расеі робіць усё, каб дапамагчы вам, бо вы ейная апошняе апірышча. Нават знаходзячыся ў стадыі перманэнтнага распаду, Масква пагражае з нагоды «парушэньня правоў рускамоўнага насельніцтва» ў іншых краінах, хаця пра гэткіх самых «рускамоўных» у самой Расеі ніхто не клапоціцца, тым больш пра самых рускіх.

Сёньня 90% (а то й больш!) г. зв. «новых рускіх» — гэта былая камуністычная эліта, каторая раптам стала ўласьніцай вялізных капіталаў. Гэтыя людзі ў большасьці сваёй ня рускія, гэта звычайныя рускамоўныя шавіністы, і, натуральна, яны варожа ставяцца да рускага пралетарыяту, сялянства, рускай нацыі. Навасьпечаным Нуворышам здаецца, што залаты дождж будзе сыпацца на іх заўжды, і што яны застрахаваныя ад усіх нягодаў рахункамі ў замежных банках. Яны нават не разумеюць сваіх функцыяў у дзяржаве — кіраваньне капіталам. Вось чаму для «новых рускіх» абыякавы бедны рускі народ.

**2. Законы прыроды й некампэтэнтнасьць паліт. элітаў**

«Адзіны савецкі народ» стаўся выкідашам. Краіны Цэнтральнай Азіі, Прыбалтыкі, Каўказу, Малдова беспаваротна адхінулі рускамоўны шавінізм. Аднак рускамоўны шавінізм ня стаўся менш небясьпечны для чалавечай цывілізацыі. Цяпер гэтая сацыяльна-палітычная плынь узяла на ўзбраеньне ідэю агульнаславянскага саюзу й пазбаўленьне нацыяў права на свабоднае разьвіцьцё (гучыць гэта, як «барацьба з сэпаратызмам»).

Ідэолягі «славянаборцаў» усіх масьцей упэўнена, з натхненьнем разважаюць аб этнагенэзе, аб папуляцыі славянаў, аслабленьні гэтай папуляцыі ды пагрозе ейнаму йснаваньню. Крычаць пра неабходнасьць аб'яднаньня брацкіх славянскіх народаў, каб супрацьстаяць разбуральнаму ўзьдзеяньню й адстаяць славянскую самабытнасьць і культуру. Магутнасьць славянскай нацыі, ейную аснову створыць саюз трох славянскіх народаў: рускага, украінскага ды беларускага (цяпер яшчэ й сэрбскага — *заўв. рэд.*). Сацыялягічная акадэміі праводзяць выязныя канфэрэнцыі, заслужоныя людзі чытаюць грунтоўныя даклады, убеленыя сівізною чыноўнікі разважаюць пра супольныя славянскія традыцыі ў кантэксьце гісторыі. Усё зьнешне выглядае прыстойна й самавіта. Аднак, калі адкінуць слоўную бязглуздзіцу, дык выкрышталізоўваецца сутнасьць: «Няхай жыве супольнаславянская дзяржава!» Яна абароніць аслабленую й прыніжаную ворагамі славянскую папуляцыю. Але ўзьнікае натуральнае пытаньне: «Хто аслабіў славянскую папуляцыю? Ад каго трэба абараняцца? Хто ейны сапраўдны вораг?» Ці не рукамі самой рускай нацыі рускамоўны шавінізм, не шкадуючы свайго жывата, разбураў самабытнасьць і культуру «брацкіх» украінскага ды беларускага народаў, як і шматлікіх іншых народаў Савецкай імпэрыі? Так, зьнішчэньне нацыяў гэта па-ранейшаму галоўная мэта рускамоўнага шавінізму: не ўдалося сэлекцыянаваць «адзіны савецкі народ», дык паспрабуйма ствараць «адзіны славянскі». Ідэя супольнаславянскай дзяржавы ёсьць варожая ўсім славянскім нацыям і скіраваная на самазьнішчэньне шляхам паступовага іхняга ўзаемапаслабленьня. Успомнім, што тэарэма Фішара, каторая мае матэматычны доказ, канстатуе: «Чым вышэй генэтычная разнастайнасьць віда, тым вышэй патэнцыяльныя магчымасьці ягонага разьвіцьця.»

Славянская папуляцыя зьяўляецца адным зь відаў чалавечага грамадзтва. Яна складаецца з асобных нацыяў, свабоднае, самабытнае разьвіцьцё якіх з выкарыстаньнем асаблівасьцяў гістарычнага досьведу, ведаў, уменьняў, духоўнага патанцыялу максымальна спрыяюць іхняму росквіту. Саюз нацыяў славянскай папуляцыі, а не дзяржава, маглі б максымальна садзейнічаць разьвіцьцю ўсёй папуляцыі. Аб'яднаньне нацыяў у адну дзяржаву абавязкова прывядзе да барацьбы за стварэньне адзінага народу, г. зн. — да звужэньня генафонду віду, і такім чынам — да ягонага паступовага аслабленьня. Менавіта так атрымалася са славянскімі нацыямі ў межах СССР.

У 1990-1994 гг. у Беларусі быў аслаблены прэс рускамоўнага шавінізму. У дзіцячых садках, школах, на вуліцах загучала беларуская мова. Карэнная нацыя нясьмела пачала адчуваць сябе гаспадыняй сваёй краіны. Беларусь паступова пачала ўваходзіць у сусьветную супольнасьць, як раўнапраўная дзяржава, пераадольваючы страх быць свабоднай. Але пануючае ў Беларусі камуначынавецтва аказалася магутнай і самай арганізаванай сілай. У яго́ных руках былі сканцэнтраваныя ўсе галіны ўлады, а значыць — усе фінансавыя сродкі краіны й СМІ. І яно лёгка дамаглося перамогі на прэзыдэнцкіх выбарах. Рух Беларусі па шляху нацыянальнага адраджэньня пачаў хутка тармазіцца. Менск становіцца цэнтрам аб'яднаньня славянаў, і пачатак гэтаму паклаў Саюз Беларусі й Расеі. У Менску пачынаюць выдавацца газэты «Славянскі набат» і «Славянская газэта». З новасьпечанага цэнтру славянізма бесперабойным патокам пайшла інфармацыя аб амэрыканскай экспансіі й агрэсіі супраць славянаў, аб мусульманскай і сіяніцкай пагрозе, ідуць заклікі адстаяць свабоду й незалежнасьць славянскіх народаў, утварыць геапалітычную прастору, дзе б славянскія народы пачувалі сябе ў «дабрабыце й камфорце».

Але вось што выклікае непакой і прымушае задумацца. У цэнтры славянізму паскорана зачыняюцца славянскія беларускія школы, выкідваецца са свайго памяшканьня Таварыства Беларускай Мовы, у адзінага ў краіне беларускага ліцэю таксама спрабуюць адабраць родныя муры, славянскія дзеткі стаяць пад прэзыдэнцкім палацам з плякатамі й просяць не адбіраць у іх памяшканьне й дазволіць вучыцца на роднай мове. У цэнтры аб'яднаньня славянаў не рэагуюць на духоўны генацыд адной з старэйшых славянскіх нацыяў на ейнай этнічнай тэрыторыі. Не славянскі набат гучыць з цэнтру славянізму, а пахавальныя званы па славянскай папуляцыі. Духоўны генацыд беларускае нацыі не ўмацуе славянаў, і гэтую простую ісьціну час ужо зразумець і рускаму, і беларусу, і ўкраінцу, і сэрбу. Пад салодкую гаворку (словаблудзтва) аб славянскім яднаньні паскорана зьнікае славянская папуляцыя на спаконвечных беларускіх землях і ўзамен імкліва расьце цюркамоўная. І гэтая новая папуляцыя — не ўцекачы, як пра тое, між іншым, заяўляе пануючая эліта Беларусі, а будучыя гаспадары калянізаванага імі рэгіёну. У Беларусі яны маюць самыя спрыяльныя ўмовы для накапленьня капіталу, адцясьняючы ад яго славянаў, захопліваючы рынкі, гандаль, імкліва ўцягваючы Беларусь у асяродзьдзе наркабізнэсу й наркаманіі. Цераз 20-30 гадоў Беларусь можа паўтарыць лёс Косава з новым варыянце. Новая папуляцыя будучых гаспадароў прыйшла ў Беларусь нават не асымілявацца, а біялягічна выцясьняць карэнную славянскую нацыю, аналягічна таму, як гэтае было зроблена ў Косаве.

Цікава, у цэнтры аб'яднаньня славянаў гэтага ня бачаць, ці гэтаму садзейнічаюць?

*Заканчэньне ў наступным нумары*

**Валеры Арцішэўскі**

*Да 125 годзьдзя з дня нараджэньня Аляксандра Ўласава*

# Мой дзядзька Аляксандар



*1874-1941*

Ад дзяцінства памятаю, як да нас на сваім «верным таварышы», ровары, зьяўляўся ў Калізбэрг і ў Менск брат мае сястры – Аляксандар Мікітавіч Уласаў. Здалёк быў ужо чутны ягоны магутны бас і рогат, бачная ягоная прыгожая аьлетычная пастава. Мы, дзеці й моладзь, з радасьцю спатыкалі яго й слухалі «справаздачы» аб працы ў рэдакцыі «Нашай Нівы», аб цікавых сустрэчах, а таксама анэкдоты, каторыя ён распавядаў на ламаных іншаземных мовах, што нам страшэнна падабалася. Ён ішоў у сад, каб паглядзець на нашыя посьпехі ў спорце на прыладах, што былі зробленыя ў асноўным пад каманду дзядзькі. А ўвечары ён сядаў пры вялікай стаячай лямпе й, абклаўшыся кнігамі, чытаў да позьняе ночы, курачы без канца папяросы. А старасьвецкія фатэлі трашчалі пад ягоным магутным целам...

Аляксандар Мікітавіч – дзядзька Саша ці «Рэдактар», як мы яго называлі – нарадзіўся 16 жніўня 1874 году ў вялікай сям'і вялейскага паштовага начальніка. Часта ён з братамі й сёстрамі гасьцяваў у Рэчках, у свайго дзеда, сьвятара Адама Канчэўскага. Бацька Аляксандра Мікітавіча быў купіўшы фальварак Мігаўку каля Радашковічаў, куды высылаў сям'ю на лета. Зь Вялейкі бацьку Аляксандра перавялі ў Вільню, а пасьля ў Пінск, дзе ён і памёр. Таму Саша пачынаў вучыцца ў Вільні, а пазьней аддалі яго ў духоўнае вучылішча ў Пінску, а нарэшце ён паступіў у рэальнае вучылішча ў Менску, куды бацька, аўдавеўшы, пераехаў з 7 дзецьмі.

Дзядзька Саша быў вельмі здольны, але страшэнны гультай. Рэальнае вучылішча ён усё ж закончыў і ў 1899 годзе выехаў у Рыгу, дзе паступіў у палітэхніку. У тыя часы студэнты маглі здаваць экзамены колькі заўгодна й зацягваць навуку на доўгія гады: такіх звалі «вечныя студэнты». Дзядзька таксама ня дужа сьпяшаўся канчаць навуку, тым больш, што ён захапіўся рэвалюцыйным рухам, браў актыўны ўдзел у студэнцкіх і рабочых хваляваньнях.

У 1905 годзе Аляксандар уступіў у Беларускую Рэвалюцыйную Грамаду. Пасьля рэвалюцыі 1905 году пачалася перадвыбарчая кампанія ў Дзяржаўную Думу, дык дзядзька распаўсюджваў улёткі й праклямацыі супраць угодных дзяржаве кандыдатаў. (Нядаўна людзі, разбураючы падмуркі нашага дому ў Калісбэргу, знайшлі колькі гэтых праклямацыяў, замураваных там). Неяк дзядзька ў Радашкаўскай чайной арганізаваў востра рэвалюцыйны мітынг, праз што быў перасьледаваны паліцыяй і, хаваючыся ад яе, доўга вандраваў у ваколіцах Менску.

У 1906 годзе Аляксандар Мікітавіч заснаваў у Вільні разам з батамі Луцкевічамі газэту «Наша Ніва» й становіцца ейным рэдактарам. (Наогул, нягледзячы на сваю, як ён гаварыў, «абломаўшчыну», ён меў талент арганізатара, умеў зацікавіць людзей сваёй ідэяй). Матар'яльныя цяжкасьці яго не спынялі, бо калі трэба было, ён абмяжоўваўся самым мінімальным. Спачатку сродкі на выдавецтва «Нашай Нівы» ён часткова «вымэнтачваў» у заможнейшых знаёмых. Пасьля ўжо грошы пачалі паступаць і ад падпішчыкаў, і ад выдавецкай суполкі «Наша хата», у якую таксама ўваходзіў Аляксандар Мікітавіч, Апроч таго «Наша Ніва» пачала выдаваць з 1910 году беларускія «Календары», каторыя карысталіся попытам.

Асабіста ж грошай у дзядзькі ніколі не было, а пазыкаў хапала. Пасьля сьмерці сваёй маці ён доўга сплачваў сваім чатыром братам за іхнія часткі спадчыны ў Мігаўцы, дзе жыў сам. 60 гэктараў сваёй зямлі ён аддаў у арэнду й гэтым залатваў свае пазыкі.

У дзядзьку неяк дзіўна спалучаліся флегматычнасьць і энэргія. Ён зьбіраў цікавы матар'ял для «Нашай Нівы», шукаў цікавых людзей, заахвочваў да працы Купалу, Коласа, Бядулю. У той час ён прывозіў да нас у Калізбэрг Рагоўскага, які граў нам сваю музыку да «А хто там ідзе?» Я. Купалы.



Зьлева направа:
І. Луцкевіч, А. Луцкевіч, А. Уласаў. 1910 г.

За некаторыя артыкулы ў «Нашай Ніве» газэту часта канфіскавалі, а за нейкі нумар дзядзька адседзеў колькі месяцаў у Бабруйскай крэпасьці. У 1912 годзе Аляксандар Мікітавіч перадаў рэдактарства Купале, а сам пераехаў у Менск, дзе арганізаваў і пачаў рэдагаваць часопіс «Саха». Як ён піша ў сваіх успамінах, дзеля гэтага патрэбныя былі пакой, скрынкі, крэслы, сталы, прымус, чайнік і пабольш энтузіязму. Спачатку рэдакцыя месьцілася недзе на Шырокай (каля Старажоўскага рынку – цяпер там тэатар балету), а пасьля – у доме Касьцялкоўскага (гэты дом знаходзіўся насупраць Дому Ўраду й быў зьнесены ў 1968 годзе). У тым жа памяшканьні была й рэдакцыя «Лучыны». Там у пэўныя дні тыдня зьбіралася беларуская моладзь, рабочыя й інтэлігенцыя, пяялі, гралі, танцавалі. Арганізавалі аматарскі тэатральны гурток. У той час у Менску дзейнічала сельскагаспадарчая выстава. Мой дзядзька арганізаваў там беларускі павільён, за які атрымаў сярэбраны мэдаль. У Радашковічах у 1913 годзе дзядзька Саша разам з маім бацькам таксама арганізаваў выстаўку. За лепшую скаціну, гародніну, збожжа выдаваліся прэміі. Мастак Сукоўскі намаляваў некалькі прыгожых плякатаў. А мне й маёй сяброўцы Жэні Зянюк пашылі беларускія строі, у якіх мы парадавалі на выстаўцы. Вечарам тага самага дня менскімі аматарамі ставілася п'еса «Паўлінка». На спэктакаль былі запрошаныя сваякі Купалы –прататыпы Пустарэвіча й Крыніцкага. Дзядзька, баючыся, што яны сябе пазнаюць на сцэне ды абразяцца, добра іх падпаіў, – і яны ўсю пастаноўку праспалі, але былі задаволеныя ўвагай да сябе.

Дзядзька Саша наогул любіў рабіць розныя «штучкі». На адным з паседжаньняў археалягічнага таварыства, на якім прысутнічаў акадэмік Шахматаў, у нас пасьля была ладжаная вячэра, на якой меўся выступіць рэдактар Скрынчанка. Аляксандар Мікітавіч яго не любіў, як палітычнага праціўніка. Падсеўшы да Скрынчанкі, ён так напаіў яго, што той, замест прамовы, толькі прамыкаў нешта невыразнае й сеў.

Пачалася вайна. Дзядзьку змабілізавалі. Нашая сям'я выехала ва Ўкраіну. Ізноў з Аляксандрам Мікітавічам я спаткалася ўжо ў 1922 годзе. Тыповы для дзядзькі Сашы быў выпадак, аб якім распавядала Уладзіслава Францаўна Луцэвіч. У 20-ых гг. Менск быў пад абстрэлам. Здаецца, наступалі палякі. Усе нэрваваліся. Пад бамбёжку да Купалаў зьявіўся дзядзька й кажа: Цётка Купаліха, у вас ёсьць малако? Я тут прынес цукар – будзем рабіць марожанае!» Уладзіслава Францаўна адказвае: «Дзядзька, ты што, звар'яцеў? Нас могуць у кожны момант забіць!» Аднак дзядзька Саша так прычапіўся, што ўсе нарэшце ўзяліся рабіць справу. А пакуль круцілі марожанае, прайшлі самыя страшныя моманты, – і ўсе былі ўдзячныя майму дзядзьку.

Пакуль мая маці не пабудавала невялікі дамок у Радашковічах, мы часта гасьцявалі ў Мігаўцы. Дзядзька зноў быў поўны энтузіязму. Арганізаваў Радашкаўскае Таварыства Беларускай Школы й дамагаўся адчыненьня ў Радашковічах беларускай гімназіі. За гэта палякі яго арыштавалі ды на некалькі месяцаў саслалі ў канцэнтрацыйны лягер «Стшалково». Але дзядзька Саша, выйшаўшы стуль, дамогся свайго: яму далі канцэсію на адкрыцьцё гімназіі й зацьвердзілі Таварыства Беларускай Школы. У «Пшыглёндзе Віленьскім» была зьмешчаная інфармацыя:

***Таварыства Беларускай Школы ў Радашковічах***

*15/1. 1925 адбылося агульнае сабраньне. Сэнатар Уласаў адчытваўся аб становішчы беларускай асьветы. У чатырох гімназіях, у Вільні, Радашковічах, Наваградку й Клецку, вучыцца 600 вучняў і вучаніцаў. Апрача гімназіі Таварыства ўтрымлівае 9 пачатковых школак: у Путніках, Ушы, Гуце Вілейскага павету, а таксама ў Прудах, Хінжэвічах, Чэмежах, Укрыні, Грабове ды Савічах Слонімскага пав. У склад Рады Таварыства выбралі: А. Уласава, Р. Пажэцкага, А. Більдзюкевіча, Гаўрыліка, Рудзь і К. Тышкевіча.*

У тым часе дзядзьку абралі ў Сэнат па сьпіску нацыянальных меншасьцяў. А ў Радашковічах пачалася арганізацыя гімназіі, якая прайснавала з 1922 да 1929 году. 660 вучняў прайшло цераз ейныя сьцены, 120 атрымала сярэднюю адукацыю, з каторых шмат хто скончыў вышэйшыя навучальныя ўстановы, найбольш у Чэхаславаччыне, бо ў Польшчы вымагалі яшчэ здачы на «матуру» (атэстат сьпеласьці). Праводзячы многа часу ў гімназіі, Аляксандар Мікітавіч сам жыў у Мігаўцы, куды зьбіраліся да яго беларускія дзеячы з усіх канцоў Заходняе Беларусі. У Мігаўцы я пазнаёмілася з Браніславам Адамавічам Тарашкевічам, маім будучым мужам.

Дзядзька лічыўся вялікім арыгіналам. На ягоным зашклёным ганачку стаяў стол, наўкол лавы, на століку – незгасаючы прымус з чайнікам. На стале без абруса – шклянка, цукар, бохан хлеба, кавалак вэнджанай шынкі. Дзядзька басанож, у саматканым касьцюме, абклаўшыся кнігамі, чытае, п'е гарбату. Калі прыяжджалі госьці, дзядзька Саша басам клікаў сваю гаспадыню: «Анатоля, гоп, гоп!» Калі госьці былі даспадобы, яна



Беларускія настаўніцкія курсы пры Радашкаўскай Беларускай Гімназіі. 1927 г.

# Уласаў



А. Уласаў з сям'ёй. 1927 г.

прыносіла яечню, масла, сыр, каўбасы; калі не – казала, што нічога няма й ніякія ўгаворы дзядзькі не памагалі.

У садзе былі спартовыя прылады, і ўся моладзь мусіла практыкавацца. А вечарам у старым доме дзядзька запальваў у каміне, перад ім клалі посьцікі, мы сядалі на падлогу, пілі каву й слухалі найчасьцей дзядзьку. А старэйшыя сядалі на надзвычай вялікую канапу, каторая мела каля 5 мэтраў даўжыні.

Калі было горача, дзядзька хадзіў у адных шортах (тады гэта была рэдкасьць), а такі волат, як ён, выглядаў досыць арыгінальна. Нават здараліся зь ім анэкдоты. Прыехаў нейкі беларус з ваколіцаў Вільні й пайшоў зь дзядзькам у сад. Тым часам прыйшоў нейкі селянін па раду. Яго паслалі ў сад, але ён хутка вярнуўся перапалоханы ды кажа: «Там нейкі голы вар'ят ходзе, а каля яго, мусі, фэльчар круціцца і ўсё яго ўгаворвае!» Аднаго разу прыйшла нейкая дзяўчына, і яе паслалі ў сад. Яна пайшла й паклікала: «Пан сэнатар!». І раптам пачула аднекуль з гары: «Гоп, гоп!» Узьняла галаву, а на дрэве нейкае вялізнае, праве, голае цела. Ад нечаканасьці амаль не самлела.

Калі дзядзька зьбіраў гасьцей, дык за вячэрай хадзіў каля стала й казаў: «А Божа ж мой; ня ежце гэтак шмат, гэтак вы мяне зруйнуеце!» Госьці рагаталі, і нідзе, здаецца, як у яго, так смачна не елі й не пілі. А сам дзядзька Саша мог зьесьці яечню зь 10 яек на сале, а ў пост – на алею. Моладзь яго надта любіла за ягоныя жарты, за любоў да спорту, за кнігі, каторыя ён пазычаў са сваёй багатай бібліятэкі, за добрыя парады. Увечары прыходзілі суседзі зь Мігаўкі, Шалухічаў, Пяцюлей. Дзядзька чытаў ім газэты й распавядаў, што дзеецца ў сьвеце. Будучы сэнатарам, ён бараніў пакрыўджаных. Каб вучням было лягчэй вучыцца, ён прыняў прапанову мэтадастаў з Варшавы, якія арганізавалі ў Радашковічах інтэрнат для хлапцоў і дзяўчатаў: такім чынам яны мелі бязплатную кватэру, сьвятло й апал... На жаль, на новых выбарах ён ужо ў Сэнат не патрапіў.

У 1926 годзе Аляксандр Мікітавіч пабраўся шлюбам з Аляксандрай Паўлаўнай, каторая ўзялася за гаспадарку, бо грошай дзядзька ня меў, а арэнда была невялікая. Да гэтага часу, праўду кажучы, усе рабілі, што хацелі, дый гаспадарыць было ня ў стылі дзядзькі. Памалу рабіўся парадак, замянаючы патульную, безпарадачную багему Мігаўкі. Аляксандра Паўлаўна дапамагала таксама дзядзьку Сашу ставіць спэктаклі ці то ў гумне, ці то ў доме, арганізоўваць «ёлкі»; ставілі «Паўлінку», «Зьбянтэжанага Саўку» ды іншыя п'есы.

Калі разграмілі Грамаду, дзядзьку вызвалі ў Вільню ў ТБШ, каб ён памог наладзіць працу ў Таварыстве, і ён паехаў разам Р. Шырмам на зьезд ТБШ. Аляксандар Мікітавіч ня быў ні камуністам, ні грамадоўцам, але яму давяралі, як вельмі пэўнаму й сумленнаму чалавеку.

У 1929 годзе палякі закрылі Радашкаўскую Беларускую Гімназію, любімае дзіця Аляксандра Мікітавіча, і ён неяк адразу страціў гумар, згас. Наважыўся пісаць успаміны, але неяк усё ленаваўся, пакінуў толькі ўспаміны пра дзяцінства й пра тое, як арганізоўвалася «Саха».

Толькі 17 верасьня 1939-га, калі ў Радашковічы прыйшла Красная армія, ён прыйшоў да мяне поўны энтузіязму, маўляў, вось калі ён будзе пісаць і друкавацца, як эканаміст! Аляксандар Мікітавіч паехаў у Маладэчна прапанаваць свае паслугі ў рэдакцыю тамтэйшай газэты. Стуль яго накіравалі ў НКВД на зацьверджаньне, як супрацоўніка. У НКВД яго папрасілі напісаць аўтабіяграфію. Дзядзька на 17 старонках апісаў усе свае заслугі ў беларускім і рэвалюцыйным руху... З НКВД ён ужо ня выйшаў і, здаецца, напісаная ім аўтабіяграфія фігуравала, як акт абвінавачаньня. Ён дастаў у Маладэчне 5 гадоў зьняволеньня. Яго выслалі некуды на ўсход і ён памёр недзе на этапе ў Марыйскай акрузе. Калі ж жонка вазіла яму ў Маладэчна падаянкі й пыталася ў турэмнага вартаўніка, ці здаровы ейны муж, той адказваў: «Такі вялікі, вусаты? Дык жа ад ягоных расказаў рагоча ўся камэра!»

Жонкі й сынам Аляксанда Мікітавіча Ўласава новыя ўлады спачатку пакінулі 5 гэктараў зямлі й карову, але пасьля ягонага арышту й прысуду і Аляксандру Паўлаўну, і сыноў вывезьлі ў Паўладарскую вобласьць, дзе яна мусіла спачатку пілаваць лес, а пасьля жыць і працаваць на ссылцы. Толькі праз шмат гадоў яна вярнулася ў Гомель і дабілася рэгабілітацыі мужа й сабе пэнсіі.

**Вера Ніжанкоўская**

# Ачольнік скаўцкай дружыны ВБГ

***У чэрвені ў Вільні пабываў аўстралійскі беларус сп. Анатоль Бразоўскі, маладыя гады якога шчытна зьвязаныя з нашым горадам. Ён — былы вучань Віленскай Беларускай Гімназіі, былы студэнт Віленскага ўнівэрсытэту. Па прафэсіі — мэдык, з замілаваньня — паліглот: добра валодае ці не дзясяткам эўрапэйскіх моваў, у тым ліку — літоўскай. Падрабязныя ягоныя ўспаміны пра часы вучобы ў ВБГ, у якіх, напрыклад, упершыню шырака паказанае скаўцкае жыцьцё гімназістаў, — будуць зьмешчаныя ў кнізе, якая цяпер рыхтуецца да друку ў Выдавецтве «Рунь», а ніжэй падамо толькі канву тых цікавых успамінаў.***

Нарадзіўся я ў Ярэмічах. Мае бацькі былі малазямельнымі сялянамі. Дзяцей нас у сям'і было 10 чалавек. Я хадзіў у Ярэміцкую пачатковую школу й сябраваў з Л. Навумовічам, сынам ярэміцкага настаўніка. Дзякуючы сябру я й трапіў у гімназію. Я хацеў вучыцца далей і бацька Л. Навумовіча ўгаварыў мяне ехаць вучыцца зь ягоным сынам у гімназію ў Наваградак. Ён абяцаў мне дапамагаць, але я, як старэйшы і мацнейшы, павінен быў апякавацца ягоным сынам. Я здаў экзамены, быў прыняты ў гімназію й перад пачаткам заняткаў заехаў дамоў. Маці вельмі непакоілася за мяне й сказала: «Я Бога прасіла, каб ты ня здаў тыя свае экзамены! — і, плачучы, дадала. — Як жа мы цябе ўтрымаем?». Вучыцца я паехаў і мне крыху дапамагалі Навумовічы. Вучыўся я добра, але ў польскай гімназіі ў Наваградку панавала вялікая антыбеларуская атмасфэра, якую я змог вытрымаць толькі адзін год.

У 1933 годзе я паехаў вучыцца ў беларускую гімназію ў Вільню. Тут я сябе пачуваў, як нанава народжаны. Хутка ўключыўся ў грамадзкае жыцьцё гімназіі. Спачатку ўвайшоў у скаўцкую дружыну, якой кіравалі браты-немцы Кастусь і Лявон Паўлі. Цераз год я пераняў кіраўніцтва, браў удзел у зьлёце скаўтаў у Спалі (у Польшчы). У 5-ай клясе граў у аркестры на трубе-карнэце, шмат займаўся спортам, асабліва баскетболам. Быў удзельнікам драматычнага гуртка. Дапамагаў дзядзьку Шырме пісаць ноты (ягоная дачка вучылася клясай ніжэй).

Я пасьпяхова здаў экзамены, а калі яшчэ вучыўся ў 7-ай клясе, бацька мне сказаў: «Твой брат памер, жаніся ды жыві на зямлі, бо я цябе трымаць не магу!». Я адказаў: «Дай мне, бацька, павучыцца яшчэ год, а там што-небудзь рашу!». Бацька згадзіўся, а я, скончыўшы гімназію, падаўся на мэдыцыну ў Віленскі ўнівэрсытэт імя Батуры. Было пададзена на мэдыцыну ў той год ажно 2 тыс. заяваў, да экзаменаў допусьцілі 600 чалавек, а прынялі толькі 145. Беларусаў прымалі ня больш 5%, бо йснаваў адпаведны загад, каторы называўся «нумерыс кляўзус».

У гімназіі і ва ўнівэрсытэце мы рабілі розныя выступленьні, асабліва шмат у нас было экскурсіяў і вандровак, у якіх заўсёды бралі мяне, бо я быў добрым кухарам. За гэта ў мяне ня бралі грошы. А падарожнічалі мы шмат, па дарозе начавалі пераважна ў бацькоў нашых гімназістаў і студэнтаў. Добра памятаецца вандроўка з настаўнікам Барысам Кітам на слаўную Нарачу. Дарэчы, настаўнікі гімназіі былі ўсе вельмі сымпатычныя асобы, прыязныя, апекаваліся намі. Назаўсёды запомніў пані Алёну, Алёну Сакалову-Лекант, настаўніцу беларускай мовы, паэта Хведара Ільляшэвіча, Радаслава Астроўскага, Барыса Кіту, якога мы называлі «Вужом», бо ён вельмі добра мог абыходзіць усе перашкоды, якія ўзьнікалі на нашым шляху.



Сп. А. Бразоўскі на падворку Віленскай беларускай сярэдняй школы імя Ф. Скарыны. Здымак Паўла Саўчанкі.

Вучыўся я ва ўнівэрсытэце да Калядаў 1938 году. Дзеля ўтрыманьня даводзілася працаваць. Падчас вайны вучыўся ў Магілеўскім мэдычным інстытуце, а закончыў мэдыцыну ды атрымаў дыплём агульнага лекара ўжо ў Нямеччыне.

Калі ж трапіў у Аўстралію, дык мой дыплём не прызнавалі, і я змушаны быў працаваць на будоўлі, авалодваць ангельскай моваю і рыхтавацца да іспытаў. Ужо праз два гады стаў працаваць у ахове здароўя ў Пэрце (8 гадоў адпрацаваў санітарам і ў лябараторыі). Пазьней працаваў у ахове здароўя ў штаце, а потым у фэдэральнай арганізацыі.

Маю сям'ю, сыны жывуць у Аўстраліі, самастойныя, адукаваныя. Дачка працуе й жыве ў ЗША, а я на пэнсіі, займаюся грамадзкай дзейнасьцю ў суполках аўстралійскіх беларусаў. Жонка мая — жмудзінка, зь якой я сустрэўся ў Аўстраліі. Яна добра размаўляе па-беларуску, беларускай моваю мы карыстаемся і ўдома.

*Запісаў* **Павал Саўчанка**

# У татарскім палоне

***Заложнікі... Раней я бачыў іх на экране тэлевізара ды чуў з роспавядаў знаёмых. Цяпер гэта закранула мяне самога. Тое, што са мною здарылася, адбываецца сёньня наўсім абшары вялікай Расеі, сталася будзённаю зьяваю гэтай ускрай крымiналізаванай краіны...***

## 1. Пралёг

Напрыканцы красавіка пачаў мяне даймаць тэлефанічнымі званкамі адзін мой стары знаёмы з горада N, якому я колькі гадоў таму назад дапамагаў у Вільні збываць прывезеныя ім тавары. Мой прыяцель У. запрашаў мяне прыехаць у ягоны родны горад, паглядзець, як ён жыве, чым займаецца ды аднавіць былыя камэрцыйныя сувязі. Прапановы ягоныя былі заманлівыя, досыць выгадныя. Зьявілася нібыта мажлівасьць крыху падзаробіць на сям'ю, на газэту. Апроч усяго іншага, я даўна ўжо ня быў у Расеі й пастанавіў (каб не марнаваць часу) напісаць пра яе падарожныя нататкі, а таксама зьведаць сваякоў, каторыя жывуць якраз па шляху ў Татарстан, у Падмаскоўі. Асабліва хацелася пабываць у татарскай сталіцы Казані: цікавіла, як вырашаецца нацыянальнае пытаньне найбольш шматлікага, пасьля рускага, народу ў РФ.

І вось, узяўшы з сабою адно толькі кішэнныя грошы ды фотаапарат, я вырушыў у дарогу, разьлічваючы праз якіх дзесяцьдзён вярнуцца дамоў. Падарожжа маё аднак расьцягнулася на доўгі й пакутны месяц...

Задаюся пытаньнем, ці былі ў мяне кепскія прадчуваньні? Безумоўна, былі. Таксама й добра знаёмыя мне віленскія бізнэсмэны адгаворвалі ехаць, кажучы, што Татарстан сёньня адзін з найбольш «бандыцкіх» рэгіёнаў, што «бандыты» там нікому спакойна працаваць не даюць, што ўжо не аднаго літоўца яны «раскруцілі», а некаторыя дык і зусім не вярнуліся дамоў – дагэтуль у росшуку. Я аднак супакоіў сябе тым, што еду да чалавека, якога ніколі раней не падводзіў, што еду да яго ў сям'ю, што ён ужо сталага веку. Апроч таго, за савецкім часам, мне давялося шмат папрацаваць у розных «мядзьведжых кутках» Расеі на камсамольскіх ды іншых навабудоўлях побач з «хімікамі» (вольнаадпушчанымі заключонымі), меў пэўны досвед, як сябе паводзіць, калі раптам патрапліў у лапы да былых «зэкаў».

## 2. Прыезд

Праз два дні, пасьпеўшы добра паблукаць па Маскве (па «горадзе смутку майго і каханьня», дзе, дарэчы, прайшлі мае студэнцкія гады) ды палюбаваўшыся з вагоннага вакна на ранішнюю чырвонацагляную Казань з крамлём і мячэцямі, асьветленымі дэкаратыўным зялёным сьвятлом, – я ўжо званіў у дзьверы кватэры майго прыяцеля У. Дзьверы ён адчыніў мне сам. Заспаны і ў халаце. Кватэра была аднапакаёвая, бедна абстаўленая, бруднаватая. Гэта адразу занепакоіла мяне, бо У. раней быў добра забясьпечаным чалавекам, меў вялікія грошы ад свайго бізнэсу. Убачыўшы аднак жонку й малую яшчэ дачушку, супакоіўся: ці мала што з намі здараецца ў жыцьці? У мяне ў самога неадночы здараліся ўзьлёты й падзеньні.

Пакуль У. хадзіў у краму «за хлебам», жонка У. пасьпела накрыць стол. У чаканьні надоўга зьніклага У. мы пагаварылі зь ёй пра жыцьцё-быцьцё ў N і ў Літве, дзе яна неаднаразова бывала з мужам. Прыкладна праз паўтары гадзіны вярнуўся У.

Падчас пачосткі сябра мой паводзіўся крыху нэрвова: не глядзеў мне ў вочы, не хацеў асабліва «чокацца» за нашых агульных знаёмых і за прыезд. Выйшаўшы з-за стала, я прыняў душ. Было ўжо паабедзьдзе. Нехта пазваніў у дзьверы, і У. запрапанаваў паехаць пазнаёміцца зь ягонымі «кампаньёнамі».

На вуліцы нас чакала машына. Крыху пакружляўшы па горадзе, мы спыніліся каля звычайнага, здаецца, 13-павярховага гмаху. Падняліся на ліфце разам з У. на 9 паверх, напарнік мой пазваніў у абшарпаныя дзьверы адной з кватэраў, прапусьціў мяне наперад і зашчоўкнуў за мной замок.

## 3. У «падвале»

У амаль пустым пакоі з абдзертымі шпалерамі, з вокнамі, занавешанымі бруднымі анучкамі, мяне чакалі двое ў чорных, з прораззю для вачэй, «амонаўскіх» каўпаках. Адзін зь іх паказаў мне «ствол», параіў, каб я паводзіўся ціха, насунуў мне на галаву задам наперад бруднаебелы шарсьцяны каўпак зь дзюркай для носу (у такіх каўпаках працуюць падчас марозаў на Поўначы зваршчыкі), туга зьвязаў за сьпінай рукі суконным поясам. Потым абшукаў мяне, забраў грошы, дакументы і ўсё, што я меў пры сабе. (Пакінутую на кватэры ў У. торбу з рэчамі назаўтра таксама прывезьлі ў «падвал»).

Я быў вельмі агаломшаны такім абыходжаньнем са мною, такім хуткім і, як мне здавалася, бязглуздым палоненьнем. Глядзеў на ўсе так, нібыта гэта адбывалася не са мною, не адчуваў страху. Тымчасам мяне пасадзілі на адзіную ў пакоі канапу, У. сеў насупраць у крэсла, пачаліся нашыя першыя перамовы зь ім, якія ўважліва слухалі мае «ахоўнікі». У. сказаў, што яму патрэбная (касьмічная для мяне) сума «зялёных», каб расплаціцца з пазыкамі ды нанова «закруціць бізнэс». Я адказаў, што ня маю за душою ні граша (што было чыстай праўдай) і сам хацеў крыху зарабіць за кошт У. Адным словам, мы размаўлялі на розных мовах. (Гэта была акурат тая «клясычная» сытуацыя, калі ў «прадаўца» няма тавару, у «пакупніка» грошай, а навокал куча галодных «бандытаў», каторыя ўжо нізавошта цябе проста так не адпусьцяць).

Бачачы маю незгаворлівасьць, «ахоўнікі» вырашылі мяне «пугануць». Адзін зь іх паклаў мяне на канапу тварам уніз і заткнуў рот кляпам. Затым зьняў зь левай нагі чаравік, надзеў замест яго тэпаць (каб не было сінякоў?), заламаў нагу й ня дужа моцна выцяў гумовай дубінкай. Удар па напружанай назе тупым болем адгукнуўся ў скронях. Пасьля некалькіх «лёхкіх» удараў, я страціў прытомнасьць. Калі ачомаўся, мой катавальнік, паказаў мне яшчэ адзін з сваіх «прыёмаў»: біў пад рэбры, ад чаго на хвіліну спынялася дыханьне. На знак таго, што я буду больш згаворлівы, ён пасьля трох такіх удараў, запрапанаваў мне кіўнуць галавой. Мне нічога не заставалася, як кіўнуць... Як потым даведаўся, гэткім «прыёмам» майго новага прыяцеля «навучылі» ў «ментоўцы» (аддзяленьні міліцыі) й што біцьцё па заламанай назе, сапраўды, не пакідае сінякоў і можа каго хочаш зрабіць «вальтанутым» (вар'ятам). «Калі ўдасца вярнуцца дамоў, дык нічога ўжо ня будзеш помніць, » – растлумачыў ён.

Катавалі мяне нядоўга і ўсяго адзін раз. Вельмі шкадавалі, што я ім «у бацькі гаджуся»: быў бы маладзейшы, далі б не такога чосу. Пасьля закончэньня працэдуры мне выцягнулі з рота кляп, пераварнулі на бок, накрылі чамусьці з галавою коўдрай. У. з адным з «ахоўнікаў» некуды сыйшлі. Той, хто мяне катаваў, сеў насупраць у крэсла. Я наўмысна варочаўся й зрабіў так, каб праз шчыліну бачыць яго. Свой чорны нагалоўнік хлопец зьняў, быў ён чарнявы, смуглы, з прыгожымі рысамі твару, худы, нейкі зусім нястрашны. Пад прыкрыцьцём коўдры я незаўважна вызваліў з суконнага поясу рукі. Крыўдна было паводзіцца, як авечка перад закланьнем, сьмеласьці прыдавала й выпітая папярэдне з «сябрам» У. гарэлка. Я выскачыў з-пад коўдры й нечакана накінуўся на свайго адзінага вартаўніка. Ды ён аказаўся спрытнейшы, выхапіў «ствол», наставіў на мяне. Я вярнуўся на канапу, моўчкі сеў. Ён нанова завязаў мне рукі (гэтым разам сьпераду), сталёвай ізаляванай праволкай спутаў ногі, так што я з гэтага моманту мог рухацца толькі дробнымі крокамі. Біць ён мяне ня стаў. (Пазьней прызнаўся, што быў «ашарашаны» маімі «нестандартнымі паводзінамі»).

Затым малады «ахоўнік» перавёў мяне за шафу, загадаў легчы на брудны, з засохлаю крывёю «цюфяк» з гэткай самай бруднай падушкай. На гэтым «лежбішчы» за шафай я, нарэшце, пачаў усьвядамляць сваё незайздроснае становішча. Знаходзіўся я ў абсалютна чужым горадзе, апынуўся па міласьці «сябра» у лапах «бандытаў», мае блізкія нават ня ведалі, ці даехаў я да мейсца. Мяне маглі (напрыклад, ад страху) забіць, схаваць труп ды паведаміць, што я не прыехаў. Зразумеў, што самае галоўнае для мяне цяпер «падаць голас», каб ведалі, дзе я знаходжуся.

Так я праляжаў да наступнага вечара. Не прасіў ні піць, ні есьць: дый мне й не прапаноўвалі. Прасіўся толькі ў прыбіральню, перад якой мне разьвязвалі рукі. Дзьверы прыбіральні не зачынялі.

Гэтыя першыя суткі майго «палону» былі найбольш роспачныя. Кватэра была, відаць, зьнятая пад мяне й за мае «канфіскаваныя» грошы. У дзьверы пачасту стукаліся падлітыя знаёмыя папярэдняга жыльца (а можа ахвяры?). Мае «ахоўнікі» затойваліся, замотвалі мне рот шырокай ліпучай стужкай, якая потым балюча аддзіралася разам з барадою. За шафаю было задушліва, я страшэнна пацеў у курцы й чаравіках. Па «цюфяку» бегалі прусакі.

Пра што мне, увогуле, думалася ў гэтыя першыя суткі палону? Што застаецца ў сьвядомасьці чалавека ў гэткай, як мая, «парогавай сытуацыі»? Не пакідала пачуцьцё крыўды за зьняважаную чалавечую годнасьць: што можна сёньня кожнага чалавека вось гэтак ні за што, ні пра што, як кавалак мяса, як парсюка, зьвязаць, засунуць за шафу й патрабаваць выкуп. Аднак сапраўднага страху сьмерці й шкадаваньня да сябе самога чамусьці не было. (Мо таму, што век мой павярнуў з зэніту на захад? Што я ўжо даволі нажыўся?). Вострае шкадаваньне было да самых блізкіх мне людзей: жонкі й дачушак, якія ня сталі яшчэ на ногі. Шкадаваў трохі, што нешта не дарабіў у сваёй творчасьці, што, наогул, так мала зрабіў. Думалася, як недарэчна часам паміраюць людзі. Прабягалі перад вачыма, як карцінкі ў калейдаскопе, фрагмэнты з праміналага жыцьця, як бы я разьвітваўся зь ім. Думалася пра вышэйшую справядлівасьць, пра Бога – няўмела спрабаваў маліцца...



А тымчасам пад'езд і вуліца жылі сваёй звычайнай, недасяжнай мне цяпер і таму жаданай, будзённасьцю. Звонку гулі й сыгналілі машыны, гаўкалі сабакі, крычалі людзі. За дзьвярыма чуліся крокі тых, хто вяртаўся ці йшоў на працу, бразгалі дзьверцы сьмецьцяводаў, сьмяяліся дзеці. І я ляжаў усяго ў некалькіх кроках ад іх!

Наступнага вечара прыехаў У., сказаў, што заўтра прывязе тэлефон, што я з «падвала» буду стэлефаноўвацца зь Вільняй, прасіць, каб хто-небудзь прыехаў у N з «выкупам». Я адказаў, што такога чалавека, каторы даў бы за мяне выкуп, няма. Магу толькі выклікаць чалавека зь Літвы з «задаткам» за тавары, якія прапаноўваў мне У. На чым і пагадзіліся.

## 4. Пераезд на «фазэнду»

Ні ўзаўтра, ні пасьлязаўтра У. так і не знайшоў тэлефона, па каторым я змог бы пазваніць у Вільню. Гэтая «няўдача» ў пэўнай ступені паспрыяла майму ўратаваньню й шмат у чым палегчыла мой лёс. Я па-ранейшаму ляжаў ціха, дурных пытаньняў не задаваў, не скуголіў, размаўляў, што мае ахоўнікі толькі простыя выканаўцы, «пацаны», карыстаючыся зэкаўскім сьлэнгам. Гэткія мае «нэўтральныя» паводзіны, каторым я навучыўся на Поўначы і ў Сыбіры, мелі пэўны посьпех. Мае «ахоўнікі» часам самі прапаноўвалі ваду й хлеб. Ад хлеба я адмаўляўся, а ваду піў – шмат пацеў у сваім катуху.

Вартавалі мяне двое. Ноччу яны спалі паперамена. Удзень то адзін, то другі ненадоўга адлучаліся ў горад. Калі я заставаўся адзін на адзін з В., каторы мяне катаваў, ён дазваляў мне зьняць каўпак ды пасядзець у крэсьле. Чалавекам гэты хлопец аказаўся начытаным, зь цікавымі думкамі, з насычаным падзеямі лёсам. Прайшоў дзьве савецка-расейскія вайны, меў дзьве «адсідкі». Да таго ж быў цікавы раскашчык. (Зразумела, пакуль што я не магу падрабязьней расказаць пра яго. Скажу толькі, што ён, напрыклад, шмат цытаваў зь Лермантава). Літаратурнафілязофскія размовы зь ім ды распросы пра войны й «адсідкі» скрашвалі маю самоту, адганялі панылыя думкі праз увесь час палону. У В. былі безумоўныя літаратурныя здольнасьці, ён някепска маляваў.

Другі ахоўнік А. быў больш нэрвовы й грубы ў дачыненьні да мяне, больш падозраны. Дазваляў толькі сядзець на «цюфяку», часта нечакана зазіраў за шафу, правяраў завязку на руках і путы.

Аднак збольшага мае ахоўнікі абодва знаходзіліся ў пакоі. Тады я маўчаў, слухаў, пра што яны гаварылі, чуў, як яны гулялі ва ўлюбёную зэкаўскую гульню «нарты» ды слухалі Шафуцінскага й іншую расейскую «папсу» з «блатным» ухілам. Асабліва назаляла «Малалетка, малалетка...», якая суправаджала мяне праз увесь час паланеньня.

Надвечар прыехаў У. Паведаміў, што прыдатнага для перамоваў зь Літвой тэлефону ён не знайшоў і што мы пераяжджаем на «фазэнду». Мяне папярэдзілі, каб я «ня рыпаўся» і разьвязалі. Я памыўся й трохі пачысьціў скамечаныя штаны й курту. Перад тым як выйсьці У. паказаў мне «ствол». А., каторы йшоў ззаду, таксама на ўсялякі выпадак паказаў мне «лімонку», сказаўшы, што губляць яму няма чаго.

Пакуль пераяжджалі, з прыемнасьцю й зайздрасьцю глядзеў з машыны на вечаровы N, на праяджаючыя міма машыны, на шпацыруючых. Звычайнае чалавечае жыцьцё сталася раптам для мяне такім недасяжным...

*Працяг будзе*

**А. М.**

## На 100% пагаджаюся

з думкамі сп. Сяржука Вітушкі адносна натаўскай фашыстоўскай агрэсіі ў Югаславіі ў N23 «Руні». Я заўсёды быў пабочнікам НАТА як арганізацыі, створанай для абароны Захаду ад камуністычнай агрэсіі. Аднак цяпер яна сама ператвараецца ў такога самага агрэсара, якімі нядаўна былі камуністы! Калі альбанцы ня хочаць жыць у Косава пад сэрбскай уладай, дык яны вольныя ехаць у сваю незалежную Альбанію. Аднак яны ня толькі ня хочаць туды зьяжджаць, а, наадварот, сьцягнулі да сябе ў Косава больш за 150 тыс. альбанцаў з Альбаніі. Цяпер яны прагнуць адарваць Косава ад Сэрбіі, і амэрыканскі «сэксуальны вар'ят» Біль Клінтан ім у гэтым дапамагае... Ці натаўцы ня ведаюць, што агрэсія НАТА супраць Югаславіі парывае Хартыю ААН, у каторай гаворыцца, што адна краіна ня мае права ўмешвацца ва ўнутраныя справы іншых краінаў? Аднак што ж зробіш з вашынгтонскім вар'ятам, каторы сваімі ганебнымі паводзінамі страціў ужо жонку й каторага зноў будуць судзіць, калі скончыцца ягонае прэзыдэнцтва. Цікава таксама й тое, што хрысьціяне-сэрбы ў Косава маюць 2-3 дзяцей, а альбанцы-мусульмане ад 6 да 14 дзяцей. Нездарма апошніх у Косаве больш, чым сэрбаў! Ёсьць таксама факты, што самі альбанцы-касавары ўжо даўно пачалі выганяць тэрорам сэрбаў з тых ваколіцаў, дзе альбанцы складаюць бальшыню насельніцтва...

**Алесь Алехнік**
*Сыднэй*

## Пікеты беларусаў Лёндана

адбыліся 16 траўня каля амбасады РБ у Англіі. Было ня менш за 10 пікетаў рознага зьместу й чатыры бел-чырвона-белыя сьцягі. Пікеты былі заарганізаваныя з нагоды прэзыдэнцкіх выбараў у Беларусі. Прысутным і проста прахожым раздаваліся адумысловыя інфармацыйныя лісткі.

**Юры Весялкоўскі**
*Лёндан*

## Нічога ня ведаем

пра прэзыдэнцкія выбары ў Беларусі. Пра Югаславію СМІ перадаюць дзень і ноч, а пра Беларусь няма ніякіх зьвестак. Непрыемнае ўражаньне: выглядае так, што сьвет не цікавіцца Беларусьсю. Мы, жывучы на Захадзе, ужо шмат пазналі псыхіку заходніх краінаў. Тут, калі ў нейкім краі няма змаганьня (у сэнсе бітвы), дык пра гэты край ніхто ня піша й не гавора. А калі ў малой Чачні была вайна, пра гэта бубнілі дзень і ноч усе СМІ.

**Ян Барысевіч**
*Аўстралія*

## Пераяжджае на новае месца

Царква Сьв. Апосталаў Пятра й Паўла ў Адэляйдзе (Аўстралія). З гэтай нагоды а. **Міхась Бурнос** папрасіў нас зьмясьціць наступнае: «З Божае ласкі, пасьля ледзь не гадовага змаганьня з урадам Паўдз. Аўстраліі за перанясеньне нашае царквы Сьв. Апосталаў Пятра й Паўла нарэшце ўрад згадзіўся на перанясеньне й пабудаваў нам такую самую Царкву (але даўжэйшую на 3 мэтры) ды залю за свой кошт. З урадам зробленая дамова сьпярша ўсё пабудаваць, а потым усё перавезьці. Нашая Царква, узьведзеная ў 1962 годзе, ёсьць першая зь беларускіх цэркваў, пабудаваных на аўстралійскім кантыненце. Цяпер яна пераносіцца з 5 Гайндмарш Пляйс Гайндмарш на 420 Торэнс РоадІлькэні. Прычына ж перанясеньня Царквы — павелічэньне Сокэр-Стадыёну да міжнародных стандартаў дзеля алімпійскіх гульняў 2000 году.

17 красавіка адбылося пасьвячэньне царкоўнай плошчы у саслужэньні кіруючага мітрафорнага протапрасьвіцера а. Аляксандра Кулакоўскага з Мэльбурну ды а. Міхаіла Бурноса, настаяцеля парафіі Сьв. Апосталаў Пятра й Паўла ў Адэляйдзе, з Архіпастарскім Багаславеньнем Яго Міласьці Мітрапаліта Ізяслава, Першагерарха Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы. Дзень быў сонечны. Прысутных было больш за 50 чалавек, і ўсе яны ўпісалі свае імёны ў Царкоўную Кнігу Прысутных. Пасьля адбылася трапеза, дзе чуліся словы добрага пачыну ды заклікі да мірнае спаўпрацы й дружнага, гарманійнага жыцьця Парафіі на славу Богу й нашай Бацькаўшчыне Беларусі. Слава Ісусу Хрысту на векі вечныя!

*а.* **М. Бурнос** *і м.* **Вольга**
*зь сям'ёю»*

*Рэдакцыя «Руні» жадае а. Міхаілу й ягоным прыхаджанам добрага здароўя, доўгіх гадоў жыцьця, плёну ў працы на карысьць Богу й Бацькаўшчыне й многа новых вернікаў у Парафіі!*

## Абшырны Агляд

**«Парушэньні правоў чалавека падчас арганізацыі й правядзеньня выбараў прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь»** падрыхтавала менская праваабарончая арганізацыя Праваабарончы цэнтар «Вясна-96». «Аналіз ходу прэзыдэнцкай кампаніі... паказвае, — канстатуецца ў Аглядзе, — што ўлады, каб сарваць выбары, выкарыстоўвалі рэп-рэсіі... Падчас выбараў ад дзеяньняў уладаў тым ці іншым чынам пацярпела некалькі тысячаў чалавек. Больш за 100 сяброў выбарчых камісіяў былі затрыманыя, каля 20 чалавек атрымалі адміністрацыйныя арышты...» Надалей у Аглядзе прыводзіцца дзясяткі прыкладаў рэпрэсіўных дзеяньняў беларускіх уладаў падчас выбарчай кампаніі. Вось характэрныя прыклады, каторыя адбываліся штодня на ўсім абшары РБ і каторыя дазволяць нашым чытачам-замяжоўцам зрабіць адпаведныя вынікі:

«25 сакавіка каля 6.00 на аўтавакзале г. Магілева супрацоўнікамі міліцыі ў цывільным былі затрыманы старшыня Магілеўскай філіі БСДП «Народная Грамада» Алесь Сердзюкоў. Ён быў дастаўлены ў РАУС Ленінскага раёну г. Магілева для дагляду, дзе ўтрымліваўся прыкладна да 11 гадзінаў. Супрацоўнікі РАУС патлумачылі прычыну затрыманьня тым, што яны нібыта атрымалі інфармацыю пра тое, што ў А. Сердзюкова ў торбе знаходзіцца герaін. Пры вобыску ў А. Сердзюкова былі знойдзеныя падпісныя лісты за вылучэньне М. Чыгіра ў кандыдаты ў прэзыдэнты РБ з 1000 сабраных подпісаў, якія былі канфіскаваныя...»

«25 сакавіка актывіст наваполацкай філіі ПЦ «Вясна-96» Салаўёў Зьміцер быў выкліканы да рэктара Полацкага дзяржаўнага ўнівэрсытэту, асьпірантам якога зьяўляецца. Рэктар папярэдзіў яго аб магчымым выключэньні з асьпірантуры за актыўную палітычную дзейнасьць і працу ў падрыхтоўцы выбараў прэзыдэнта РБ...»

«7 траўня на выезьдзе зь Менску нарад ДАІ затрымаў машыну намесьніка старшыні Гомельскай абласной камісіі Віктара Яфімава, у якога канфіскавалі 25 тыс. бюлетэняў».

«10 траўня на цэнтральнай плошчы г. Лунінца Брэсцкай вобл. падчас размовы з моладзьдзю ўзброенай групай супрацоўнікаў міліцыі былі захопленыя сябры раённай выбарчай камісіі Зосіч Пётар і Гнядзько Валеры. У сяброў камісіі канфіскавалі выбарчыя бюлетэні й пячатку... Зосічу далі 10 сутак адміністрацыйнага арышту, Гнядзько — штраф у памеры 1 млн. бел. рублёў».

«16 траўня на рынку «Паўднёвы» затрыманыя сябры ўчастковай камісіі Віктар Сухі й Міхась Чарнушчык, а таксама сябра Гродзенскай гарадзкой выбарчай камісіі Пётар Анісімовіч. Міліцыянты склалі пратаколы, канфіскавалі скрыні для галасаваньня, 1419 бюлетэняў» і г. д. і г. д.

*Падрыхтаваў* **А. М.**







✝ Зь вялікім болем і сумам да воджу да ведама беларускай грамадзкасьці ў сьвеце, што ў суботу, 8-га траўня 1999 году, памёр доўгагадовы сябра Беларускага Аб'яднаньня Аўстраліі, мой вельмі блізкі сябра, супрацоўнік і дарадчык, журналіст, пісьменьнік і вялікі пабочнік ідэі незалежнасьці Беларусі, 88-гадовы **Сымон Шаўцоў**. Пахавіны адбыліся ў сераду, 12 траўня, на магільніку Pinegrow (Пайнгроў) непадалёк той хаты, якую сам, сваімі рукамі збудаваў і ў якой жыў амаль 50 гадоў нябошчык, у Сыднэйскім прадмесьці Rooty Hill (Руты Гіл). Ад беларускай грамадзкасьці прысутнічалі на развітальнай службе сп. Алесь Алехнік і сп. У. Радзевіч. Вянок ад Беларускага клюбу арганізаваў сп. М. Ціхан. Вечная й заслужаная Яму памяць! Жыве незалежная Беларусь!

**Алесь Алехнік**

✝ Пайшоў з жыцьця таленавіты журналіст і пісьменьнік **Сымон Шаўцоў** (1911-1999). Ён пражыў вельмі цяжкае жыцьцё, зьведаў зьверствы сталіноўскага й фашыстоўскага тэрору. Але гэта яго не зламіла. Усюды, дзе б ён ня жыў, дзе б не працаваў, заставаўся беларусам высокага гарту, думаў пра Бацькаўшчыну, працаваў на яе карысьць і змагаўся за ейную Незалежнасьць. Усюды карыстаўся заслужаным аўтарытэтам і пашанаю. Заўсёды быў вялікім аптымістам, верыў у будучыню Беларусі, — такім ён і застанецца ў нашых сэрцах. Выказваем шчырае шкадаваньне ягоным родным і блізкім.

***Сябры зь Менску***

✝ Далучаемся да смутку з нагоды сьмерці таленавітага пісьменьніка й журналіста **Сымона Шаўцова** й выказваем шчырае спачуваньне родным і блізкім нябошчыка.

***Сябры рэдакцыі «Руні»***

АЛЕГ АБЛАЖЭЙ

# Патрыятызм на талерцы

Кожная гаспадыня ведае — каб сьпячы добры пірог, патрэбныя якасныя складальнікі: мука, яйкі, прысмакі... Дзяржава — таксама своеасаблівы «пірог». І хто б мог падумаць, што праз амаль дзесяць гадоў пасьля аднаўленьня незалежнасьці Літоўскай Рэспублікі для большасьці ейных жыхароў гэты «пірог» будзе, што камяк у горле.

Нядаўна на радыё была дыскусія — нехта даводзіў, што на мяжы беднасьці жыве палова грамадзянаў нашай краіны, а хтось пярэчыў — не, толькі трэць. Хоць ведама, што гэтыя падлікі суб'ектыўныя й прынцыпова недакладныя. Затое дакладна вядома, што дзяльба «пірага» ўжо практычна завершаная, і насмачнейшыя кавалкі дасталіся нямногім. Калі пры ўладзе былі нашчадкі Літоўскай кампартыі, на іх і не спадзяваліся асабліва: што возьмеш з былых намэнклятуршчыкаў? Аднак, відаць, менавіта іхнія «радзінныя плямы» й стрымоўвалі іхні апэтыт.

Новыя ўлады — з партыі кансэрватараў Вітаўтаса Ландзбэргіса — былі «незаплямлены-мі», больш таго, шмат хто з улядумаючых меў дачыненьне да «Саюдзісу», «сьпеўнай рэвалюцыі» ды г. д.

І вось мы маем тое, што маем: усеагульную дэпрэсію, стагнацыю, недавер да кожнай улады... Прафэсар Арвідас Шлёгерыс назваў два гады кіраваньня кансэрватараў «гадамі кашмару». Менавіта за гэты час канчаткова сфармаваліся кляны, сем'і, групоўкі, каторыя падзялілі паміж сабою ўсё, што толькі можна падзяліць, і прадалі ўсё, што толькі можна прадаць. Яны адчулі ў сабе такую сілу, што, калі новаабраны прэзыдэнт Валдас Адамкус пачаў у рэшце рэшт абурацца несамавітаму стану ва ўладных структурах ЛР, прэм'ер-міністар Вагнорус (і аднachасова кіраўнік партыі кансэрватараў) назваў яго «капрызнай паненкай». Прэм'ер-міністар быў упэўнены: зь ім нічога ня можа здарыцца, бо ягоная партыя мае большасьць у Сойме, а сьпікер Сойму Ландзбэргіс ёсьць ягоны партыйны калега. І калі Адамкус, страціўшы цярпеньне, адкрыта, у адумысловым выступленьні па TV, запатрабаваў адстаўкі Вагнураса, Сойм дэманстратыўна прагаласаваў за «давер» прэм'еру. Аднак скандалы, нячыстыя апэрацыі ў галіне гаспадаркі былі ўжо настолькі відавочныя, што ўрад усё ж быў вымушаны падаць у адстаўку...

Вось такая яна ўлада ПАТРЫЁТАЎ, дзеячоў, каторыя ў свойчас змагаліся за незалежнасьць. І для нас, беларусаў, гэта важна таму, што ў шмат якіх галовах захоўваюцца наіўныя ілюзіі, быццам варта вярнуць беларускую мову, нацыянальны сьцяг, гімн, а да ўлады давесьці сапраўдных патрыётаў, — і ўсё ў жыцьці пойдзе, як па масьле. На жаль, як паказвае досьвед Літвы, патрыятызм на талерку не пакладзеш — трэба яшчэ нейкі «гарнір». І ўлады пра такі «гарнір» для сябе парупіліся. Вось, напрыклад, чыноўнікі Міністэрства ўнутраных справаў маюць аклады ад 8000 да 12000 літаў (ад 2000 да 3000 $) ды яшчэ прэміі ад 3000 да 9000 літаў. А аклад дырэктара Дэпартамэнту супрацьпажарнай бясьпекі складае 10871 літ. Простыя ж паліцэйскія, што смажацца на санцапёку з сваімі гумовымі палкамі, атрымоўваюць недзе 700 літаў — і гэта ў наш час лічыцца зусім нядрэнна! Сёньня сакратарка ў міністэрстве часта атрымоўвае больш, чым акадэмік.

Такога росквіту бюракратыі, як пры «патрыётах», Літва ня ведала. Усім яшчэ памятная гісторыя, як для адной маладой і прыгожай кабеткі было створанае Міністэрства па справах Эўропы, — пры тым, што ўжо йснавала Міністэрства замежных справаў! А вось зусім нядаўна былі створаныя пасты аташэ па культуры ад Літвы ў Брусэлі ды Нью-Ёрку. Вядома, чыста выпадкова туды паехалі дачка міністра замежных справаў і сяброўка дачкі міністра культуры...

Ці яшчэ такая гісторыя. Зь вялікай помпай і з надзеяй быў прададзены «Летувос тэлекомас». Грамадзянам апавядалі байкі пра тое, як будзе пашыраная сетка тэлефонаў, як палепшыцца сувязь і г. д. У сапраўднасьці, новыя гаспадары пайшлі іншым шляхам: звольнілі амаль трэць супрацоўнікаў, астатнім удвая зьменшылі заробак ды павысілі тарыфы на размовы, — цяпер яны ў нас у паўтары разы вышэйшыя, чым у ЗША!

Або вось яшчэ. Амэрыканская кампанія «Вільямс» купіла ўвесь нафтаперапрацоўчы комплекс Літвы. Цяпер нафту будуць дастаўляць не з Расеі, а з Скандынавіі — даражэйшую на 40%...

І гэтак далей і да гэтага падобнае. А яшчэ войска, узбраеньне — гіганцкія сродкі. На што здольныя войскі малой дзяржавы ў сучасных умовах, паказалі апошнія падзеі ў Югаславіі, дзе «патрыёт» Мілошавіч меў войска непараўнанае зь літоўскім...

Самае горшае ў нашым незайздросным, мякка кажучы, становішчы гэта дэфіцыт надзеі на перамены. Усе законы састаўленыя так хітра, што ўлады ні за што не адказваюць. Адзінае «пакараньне» — адстаўка, накрадзенага ж ніхто не адбярэ. Дый новых твараў, асобаў на палітычным даляглядзе нямашака.

... Пішу гэтыя радкі ў Нацыянальнай бібліятэцы. За вокнамі, цераз які дзясятак мэтраў — Сойм. Якія «пірагі» для нас там цяпер пякуцца?..

А якія добрыя былі складальнікі, які народ, якая вера, якія песьні...



Вільямс: «Міністар — ваш, гаспадарка — наша!»

МОЙ ПОГЛЯД НА

## ДЗЕЙНАСЬЦЬ МІТРАПАЛІТА МЕНСКАГА І СЛУЦКАГА ФІЛАРЭТА

Уладыка Філарэт ведае, што інтэграцыя Беларусі ня зробіць яго патрыярхам Рускае Праваслаўнае Царквы, і калі ён едзе ў Маскву з Лукашэнкам, дык робіць гэта з наказу патрыярха Алексія. Паводле майго меркаваньня, саюз мітрапаліта Філарэта з прэзыдэнтам Лукашэнкам ёсьць часовы. Зьвінавачваць мітрапаліта Філарэта, што ён адбудоўвае духоўнае маскоўскае жыцьцё коштам ліквідацыі ўсяго беларускага ёсьць безпадстаўным, бо маюцца факты, якія сьведчаць пра адваротнае.

Да прыезду ўладыкі Філарэта (1978) у Беларусі зьберагалося 365 храмаў і ладная частка іх была ў занядбанасьці. Сёньня маем 910 храмаў у добрым стане. У храмах адбываюцца багаслужэньні на царкоўнаславянскай мове, але гэта не ёсьць крытэрый запісваць храмы як «маскоўскія», бо ж парафіянамі ў большасьці ёсьць беларусы. У эміграцыі маем 12 храмаў беларускіх, дзе багаслужэньні былі на царкоўнаславянскай мове, толькі апошнія чатыры гады храмы перайшлі на беларускую мову, але і ў гэтых храмах хор надалей сьпявае па-царкоўнаславянскаму. У Беларусі тымчасам паступова ў некаторых храмах вянчаюць, хрысьцяць, служаць малебны ды паніхіды па-беларуску. Упершыню летась у Беларусі была адслужаная сьв. Літургія па-беларуску й правіў яе ўладыка Філарэт, Мітрапаліт Менскі і Слуцкі, у дзень памяці сьв. Віленскіх мучанікаў 27 красавіка 1998 году. Можна верыць, што гэта не апошняя сьв. Літургія, што багаслужэньні ў беларускай мове будуць часьцейшымі й станцуца паўсюднымі.

Да прыезду ўладыкі Філарэта не было ў Беларусі храмаў, прысьвечаных сьв. Эўфрасіньні Полацкай, Кірылу Тураўскаму, Гаўрылу Заблудаўскаму, Афанасію Берасьцейскаму, Сафіі Слуцкай, Віленскім мучанікам. Сёньня такія храмы ёсьць. З прыездам уладыкі Філарэта й пастановаю Сінода Беларускае Праваслаўнае Царквы пастаноўлена сьвяткаваць «Сабор Беларускіх Сьвятых», – такога сьвята раней не было.

Да прыезду ўладыкі Філарэта ў беларускіх храмах не было ніводнага япіскапа, а сёньня мы маем 10 ярархаў, 7 з каторых беларускага паходжаньня. Да прыезду ўладыкі Філарэта 80% настаяцеляў храмаў былі расейскага паходжаньня. Сёньня колькасьць храмаў значна павялічалася, а колькасьць настаяцеляў-расейцаў скарацілася на палавіну. Сталася гэта дзякуючы Духоўнай сэмінарыі. Дзякуючы у. Філарэту мы маем сёньня ня толькі сэмінарыю, але й Духоўную акадэмію імя Кірылы Тураўскага. Прыблізна пяць гадоў таму 8 лепшых сэмінарыстаў былі пасланыя на стажыроўку ў Грэцыю, Рым, Англію, Нямеччыну вывучаць мову стара-грэцкую, лацінскую, ангельскую, нямецкую ды знаёміцца з багасловем і філязофіяй. Прынятая пастанова штогод пасылаць групу сэмінарыстаў у Заходнюю Эўропу на стажыроўку, каб памалу гадаваць свае маладыя навукова-багаслоўскія кадры. Духоўная сэмінарыя апошнія пяць гадоў сталася прэстыжнай навучальнай інстытуцыяй, бо ейныя выкладчыкі ёсьць людзі з высокай асьветай, некаторыя маюць па два й нават па тры дактараты. Падобнае хоча зрабіць у. Філарэт, адкрыўшы Беларускую Духоўную Акадэмію. Сёньня беларускім сэмінарыстам для атрыманьня званьня кандыдата й доктара ня трэба ехаць у Загорск ці Пецярбург, дзе яны змушаныя былі пісаць дыплёмныя працы з гісторыі Рускае Праваслаўнае Царквы. Цяперашняя Духоўная сэмінарыя выпускае штогод прыблізна 50 маладых сьветароў, якія абымаюць парахвіі ды зьменшваюць колькасьць настаяцеляў расейскага паходжаньня.

Праявіў руплівасьць мітрапаліт Філарэт у адраджэньні сьв. Крыжа сьв. Эўфрасіньні Полацкае. Ён сам паехаў у Канстантынопаль ды Ерузалім да патрыярхаў, каб атрымаць дрэва Гасподне й мошчы тых сьвятых, каторыя былі ў арыгінальным сьв. Крыжы. Усё гэта мітрапаліт асьвяціў на гробе Гасподнім і прывёз у Беларусь. Крыж таксама ўрачыста асьвяціў і пачэсна перанёс у Полацак.

**Міхась Белямук**

**Шаноўныя чытачы!**

Пасьля выхаду гэтага нумару «Руні» ў касе рэдакцыі застанецца сума, каторай ужо недастаткова для выданьня нумару наступнага. Зразумела, што сябры рэдакцыі робяць усё, каб знайсьці сродкі для далейшага выданьня газэты, робяць захады дзеля атрыманьня датацыяў і адпаведнай выдавецкай тэхнікі ад дабрачынных фондаў і прыватных фірмаў у Літве, Беларусі й замежжы. Так нам удалося атрымаць кампутар прыгодны для макетаваньня газэты й кніг. (Аднак, каб працаваць аўтаномна, неабходны яшчэ й лязэрны прынтар, каторы шмат каштуе). Галоўнай жа крыніцай нашага йснаваньня па-ранейшаму застаюцца вашыя падпісныя грошы й ахвяраваньні.

Увогуле, сёньня выданьне накладу аднаго нумару газэты (разам зь перасылкай) абыходзіцца нам у $ 300. І гэта пры тым, што сябры рэдакцыі, разумеючы важнасьць для беларусаў усяго сьвету адраджэньня й захаваньня беларускасьці ў нашай старажытнай сталіцы Вільні, працуюць без заробкаў. Амаль не выплочваем мы й аўтарскія ганарары. Адным словам, газэта нашая робіцца на адным энтузіязме й веры ў лепшае будучае.

Шаноўныя чытачы, мы зробім усё каб «Рунь» выходзіла й надалей, аднак просім прабачэньня за магчымую нерэгулярнасьць ейнага зьяўленьня ў сьвет. Спадзяемся гэтаксама й на вашую матар'яльную падтрымку.

Умовы падпіскі ранейшыя. Чытачы далёкага замежжа могуць падпісацца дасылаючы на рэдакцыю *імянны чэк* сакратару газэты Паўлу Саўчанку (**Pavel Savcenko**). Кошт падпіскі на год – **$20.**

Жыхары Літвы могуць падпісацца ў кожным аддзяленьні сувязі. Падпісны індэкс газэты – **0187**. Кошт падпіскі на год – **12 Lt.**

Падпішчыкам у Беларусі паведамляем адрас у Гродна: *230023 Гродна-23, п/с 194, Дануце Бічэль-Загнетавай.* Кошт падпіскі на год – сума ў беларускіх рублях эквівалентная **$3** (паводле камэрцыйнага курсу).

Падпішчыкам у Расеі паведамляем адрас у Санкт-Пецярбурзе: *191028 Санкт-Петербург, ул. Сикейроса 6-1-364, Ковалюк Евгении Трафимовне.* Кошт падпіскі на год – сума ў расейскіх рублях эквівалентная **$5**.

Падпішчыкам у Польшчы паведамляем адрас у Беластоку: *Wieslaw Choruzy, Porosly 18 «а», 16-006 Barszczewo.* Кошт падпіскі на год – сума ў злотых эквівалентная **$8.**

*Адрас для допісаў:*
***«Рунь»***
***2001 Vilnius, a/d 1021***
***Lithuania***

Ахвяраваньні на газэту:

*Р. Жук-Грышкевіч з Канады $ 5*
*К. Акула з Канады $ 30*
*А. Мароз з Аўстраліі 50 аўс. дал.*
*М. Рэпецкі з Аўстраліі 50 аўс. дал.*
*А. Бразоўскі з Аўс. 50 аўс. дал.*
*А. Глёбус зь Беларусі $ 30*

Меркаваньні рэдакцыі не заўсёды супадаюць з пазыцыяй аўтараў

РУНЬ газэта беларусаў Літвы
выходзіць адзін раз на месяц
заснавальнік
Таварыства Беларускай Культуры ў Літве
выдаўцы
Віленскі цэнтар грамадзкіх ініцыятываў «Дэмакратыя дзеля Беларусі»
Таварыства Беларускай Культуры ў Літве
адрас рэдакцыі
2001 Vilnius, Žygimantų 12-3
тэлефоны 42 38 02, 61 65 32
друк АТ «Спаўда»
замова ___
наклад 1000 асобнікаў
Сябры рэдакцыі
Алег Мінкін - рэдактар
Павал Саўчанка - сакратар
Алег Аблажэй - мастацкі рэдактар
Сяргей Вітушка - гісторыя й этнаграфія
Андрэй Цярэньцеў - рэклама й інфармацыя